№ 143 (1956)
Серада, 4 жніўня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».
Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +24...+26, сонечна, уначы — +16...+18, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +20...+22, навальніца, уначы — +16...+18, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +22...+24, дождж, уначы — +16...+18, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +23...+25, сонечна, уначы — +15...+17, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +23...+25, сонечна, уначы — +16...+18, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +25...+27, сонечна, уначы — +16...+18, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## У Германіі пачалася акцыя па адпраўцы лістоў А.Лукашэнку

Нямецкае аддзяленне праваабарончай арганізацыі "Міжнародная амністыя" і Нацыянальны саюз студэнтаў Германіі аб'явілі аб пачатку новай акцыі ў абарону правоў чалавека ў Беларусі. Як паведаміла БелаПАН Наталля Радзіна, супрацоўніца прэс-цэнтра незарэгістраванай грамадзянскай ініцыятывы "Хартыя'97", якая актыўна супрацоўнічае з "Міжнароднай амністыяй", сэнс акцыі заключаецца ў тым, што любы, хто пажадае, можа зайсці на інтэрнэт-сайт http://www.belarus-petition.org і адправіць электронны ліст Аляксандру Лукашэнку.

"Я вельмі занепакоены сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі за апошнія два гады і хацеў бы выказаць падтрымку дадзеным заклікам "Міжнароднай амністыі" і Нацыянальнага саюза студэнтаў Германіі, — сказана ў лісце. — Я прытрымліваюся думкі, што вы як прэзідэнт Рэспублікі Беларусь несяце адказнасць за крызіс у галіне правоў чалавека".

Далей пералічваюцца такія патрабаванні, як забеспячэнне правоў беларускага народа ў поўнай адпаведнасці з Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека, гарантаванне свабоды слова і садзейнічанне свабоднаму абмену інфармацыяй, спыненне самавольнага затрымання ўдзельнікаў мірных дэманстрацый. Таксама ў лісце гаворыцца аб неабходнасці перарэгістраваць грамадскія аб'яднанні "Згуртаванне беларускіх студэнтаў", "Прававая дапамога насельніцтву", праваабарончы цэнтр "Вясна", спыніць пераслед актывістаў незарэгістраванага руху "Зубр" і выпусціць на свабоду былога рэктара Гомельскага медінстытута прафесара Юрыя Бандажэўскага.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Беларуская партыя працы ліквідавана

*Вярхоўны суд Беларусі прыняў рашэнне аб ліквідацыі Беларускай партыі працы (БПП). Рашэнне прынята суддзёй Ганнай Сакалоўскай па выніках пасяджэння суда. Партыя абвінавачана ў сістэматычным парушэнні Грамадзянскага кодэкса.*

З іскам аб ліквідацыі БПП у суд звярнулася Міністэрства юстыцыі. Асноўная частка прэтэнзій Мінюста датычылася сітуацыі з юрыдычным адрасам партыі і яе структур.

Як паведаміў БелаПАН прэс-сакратар БПП Мікалай Герасіменка, суд адхіліў хадайніцтва прадстаўнікоў партыі аб пераносе тэрміну разгляду справы ў сувязі з падачай у Савет міністраў скаргі на дзеянні Мінюста. Быў таксама адхілены сустрэчны іск БПП аб неправамоцных дзеяннях міністэрства. Акрамя таго, адказчык атрымаў адмову на просьбу дапусціць да суда групу сведкаў, якія гатовы былі расказаць пра праблемы, з якімі даводзіцца сутыкацца пры рэгістрацыі партыйных структур у рэгіёнах. Супраць паказання сведкаў не пярэчыў нават пракурор, аднак суддзя Сакалоўская адмовіла ў катэгарычнай форме, паведаміў прэс-сакратар партыі.

Рашэнне Вярхоўнага суда ён пракаменціраваў лаканічна: "Палітычны заказ выкананы. Улады расчышчаюць палітычнае поле напярэдадні выбараў".

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

## Нацбанк змагаецца з «Аль-Кайедай»

Нацыянальны банк Беларусі накіраваў ва ўсе беларускія банкі дадатак да пераліку асоб і арганізацый, маючых дачыненне да тэрарыстычнай дзейнасці, а таксама падазроных у сувязях з тэрарыстычнай арганізацыяй "Аль-Кайеда" і рухам "Талібан". Гэты дакумент падрыхтаваны Камітэтам па санкцыях Савета Бяспекі ААН і паступіў у Нацбанк з Міністэрства замежных спраў Беларусі.

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні інфармацыі Нацбанка, у дадатку таксама прыведзены спісы фізічных і юрыдычных асоб Ірака, фінансавыя актывы або эканамічныя рэсурсы якіх павінны быць заблакіраваны і перададзены ў Фонд развіцця Ірака ў адпаведнасці з рэзалюцыяй 1483.

Гэтае паведамленне галоўны банк Беларусі распаўсюдзіў у адпаведнасці з артыкулам 25 Статута ААН, а таксама пастановай праўлення Нацыянальнага банка ад 28 студзеня 2002 года "Аб спыненні прыходных і расходных аперацый па рахунках тэрарыстаў, тэрарыстычных арганізацый і асоб, звязаных з імі".

У выпадку выяўлення рахункаў названых асоб і арганізацый банкі павінны неадкладна інфармаваць Нацбанк з мэтай далейшай перадачы такіх звестак у МЗС і кампетэнтныя органы Беларусі.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Партыя БНФ пратэстуе супраць размяшчэння ў Беларусі расійскіх ваенных аб'ектаў

*З 2 па 6 жніўня Мінская абласная арганізацыя Партыі БНФ праводзіць чарговую акцыю па прыцягненні ўвагі грамадства да праблемы размяшчэння на тэрыторыі Беларусі расійскіх ваенных аб'ектаў.*

Як паведаміла БелаПАН прэс-служба Партыі БНФ, сёлета акцыя праводзіцца каля Ганцавічаў (Брэсцкая вобласць), дзе размешчана радыёлакацыйная станцыя (РЛС) "Волга", адзін з асноўных элементаў расійскай сістэмы папярэджання ракетнага нападу. РЛС прызначана для выяўлення балістычных ракет і касмічных аб'ектаў, а таксама для кантролю за раёнамі патрулявання падводных лодак НАТО ў Паўночнай Атлантыцы і Нарвежскім моры.

На працягу чатырох дзён удзельнікі акцыі пройдуць больш чым 90 кіламетраў па населеных пунктах Ганцавіцкага і Клецкага раёнаў. Па ходзе маршруту яны плануюць раздаць мясцовым жыхарам некалькі тысяч улётак, у якіх будзе тлумачыцца пазіцыя Партыі БНФ па гэтым пытанні. У прыватнасці, партыя лічыць найлепшым для Беларусі інтэграванне ў Еўраатлантычную прастору.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

## Грамадзянін Вялікабрытаніі дэпартаваны

По патрабаванні беларускіх улад з Беларусі выехаў грамадзянін Вялікабрытаніі, супрацоўнік Кінгстанскага універсітэта Алан Флаўэрс. Пра гэта БелаПАН паведамілі ў Пасольстве Вялікабрытаніі ў Беларусі.



Некалькі дзён таму Флаўэрс атрымаў прадпісанне пакінуць краіну да 3 жніўня. На працягу бліжэйшых пяці гадоў яму забаронены ўезд у Беларусь.

Алан Флаўэрс знаходзіўся ў Мінску з 9 ліпеня па запрашэнні Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Як сказалі вучонаму ў АВІРы, прычынай дэпартацыі стала тое, што яго імя ўключана ў спіс асоб, якім забаронены ўезд у краіну, аднак растлумачыць, чым гэта выклікана, не змаглі.

Паводле неафіцыйных звестак, прычынай дэпартацыі вучонага, які на працягу апошніх 10 гадоў шмат разоў наведваў Беларусь у рамках праграм супрацоўніцтва Кінгстанскага універсітэта з беларускімі навуковымі ўстановамі, маглі стаць яго даўнія сувязі з некаторымі незарэгістраванымі недзяржаўнымі арганізацыямі. Нядаўна, напрыклад, А.Флаўэрс удзельнічаў у летнім лагеры, які быў арганізаваны незарэгістраванай беларускай грамадскай арганізацыяй "Еўрапейскі маладзёжны парламент".

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

# Размахніся, селянін!




Па стане на 3 жніўня скошаны збожжавыя і зернебабовыя культуры (без кукурузы) на плошчы 152 тысячы гектараў. Гэта складае каля 7 працэнтаў ад наяўнай. Летась на гэты час былі скошаны названыя культуры на плошчы, якая перавышала 20 працэнтаў. Намалочана ўжо 416 тысяч тон збажыны. Ураджайнасць складае 29,6 цэнтнера з гектара. Летась яна была 27,6 цэнтнера.

На палях працуе больш як 2750 зернеўборачных камбайнаў, або 21 працэнт ад наяўных. Прастойвала 171 машына. Усе — па тэхнічных прычынах.

Адначасова вядзецца нарыхтоўка кармоў. Больш як 40 працэнтаў скошана траў другім укосам, нарыхтавана больш як 82 працэнты сена, ужо перавыканана заданне па нарыхтоўцы сенажу. А вось сіласу нарыхтавана толькі каля 15 працэнтаў да плана.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**
**Фота photo.bymedia.net**

## Новую технологию впервые применили на уборке зерновых

В этом году в хозяйствах Каменецкого, Березовского, Брестского, Дрогичинского, Ивацевичского и Жабинковского районов Брестской области впервые применена новая технология плющения зерна.

Начальник отдела производства продукции растениеводства областного комитета по сельскому хозяйству и продовольствию Мария Кунц считает, что это позволило на неделю раньше начать жатву и сократить затраты при заготовке высокопитательного фуража для животноводства. При новой технологии в нем полностью сохраняются витамины и питательные вещества, и такой фураж по своим кормовым свойствам даже превышает комбикорм.

Наибольший эффект новая технология даст в хозяйствах, где имеются крупные комплексы, а валовой сбор зерна превышает 5 тысяч тонн. Как, например, в сельскохозяйственном коллективном предприятии "Остромечево" Брестского района. "Здесь работают две специальные плющилки канадского и финского производства, производящие измельчение и плющение зерна, которое потом вместе с консервантами закладывается в специальную бетонную траншею, — сказала М.Кунц. — Особенность этого метода в том, что зерно с поля может поступать влажностью до 30 процентов, и уборку хлебов можно начинать, не дожидаясь полного его вызревания".

**Лариса ШИГАНОВА.**

**ПАРТИЙНАЯ ЖИЗНЬ**

## Кровь из носа, но левые должны объединиться

Разобщенность — самая застарелая болезнь белорусской оппозиции. В последнее время внутри оппозиционных партий происходит осознание того, что дальнейшее затягивание с объединением смерти подобно. Особое беспокойство на этот счет заметно среди социал-демократов.

27—30 июля на Брестчине был проведен первый региональный "круглый стол" с участием левых партий и гостей от профсоюзов, на котором обсуждались проблемы объединения левых. Проведение "круглого стола" совпало с празднованием Декларации о независимости. Город Белоозерск, где проходило это мероприятие, был выбран неслучайно.

Рассказывает **Валентин ЛАЗАРЕНКО,** заместитель председателя Брестской областной организации БСДП (НГ), председатель Свободного профсоюза Брестской области, активист Белорусского конгресса демократических профсоюзов: "В городе давние демократические традиции, в городском Совете работает семь депутатов, которые активно проводят в жизнь демократическую политику. Белоозерск — единственное место в стране, где на протяжении пяти лет демократы Брестчины отмечают значительнейшую дату в истории нашей страны — принятие Декларации о независимости. Эта дата, к сожалению, выпала из поля зрения широкой демократической общественности. На праздновании обычно присутствуют демократически настроенные депутаты Палаты представителей, областных и районных Советов, гости из соседней Польши, Украины.

Почему совмещены два мероприятия? Социал-демократы Брестчины очень тесно сотрудничают с независимыми профсоюзами, участвуют в их создании и расширении. Поэтому единство демократических рядов нас также очень заботит.

Процесс объединения инициирован еще в феврале месяце. Три "круглых стола" проведены в Минске. После чего было принято решение организовать такие "круглые столы" в областях. Цель — опираясь на волю регионов, дать объединительный импульс оппозиционным партиям. В этом "круглом столе" основными участниками были представители Белорусской социал-демократической партии (Народная грамада) Н. Статкевича и Белорусской социал-демократической грамады С.Шушкевича. Инициативу поддержали коммунисты С.Калякина и "трудовики" А.Бухвостова. Все участники высказались за развитие объединительной инициативы. Принято обращение к руководящим органам левых партий, чтобы они также вплотную занялись этим вопросом. Еще принято обращение к партийным организациям других областей с предложением провести аналогичные "круглые столы" у себя. Думаю, если удастся довести наше начинание до завершения, то партийным лидерам в Минске не останется ничего другого, как выполнять волю региональных партийных структур. В Минске уже создан так называемый Форум за объединение. Теперь такие форумы должны появиться в областях, Брестчина в этом ряду первая".

По мнению Анатолия Левковича, председателя Брестской областной организации БСДП (НГ), "партийные массы в регионах в своем большинстве выступают за объединение, поэтому в успехе можно не сомневаться. В ближайшее время мы создадим конфедерацию левых партий. Затем в перспективе создадим объединенную левую партию социал-демократического толка. До президентских выборов такая партия кровь из носа должна быть образована. Но и создание конфедерации также будет большим успехом левых".

**Вячеслав ОРГИШ.**



**ДЗІКУНСТВА**

*Віктар ІВАШКЕВІЧ, намеснік старшыні Партыі БНФ:*

## «Кампанія ідэалагічнай нянавісці пачалася»

*Вандалы ўчынілі расправу над офісам апазіцыянераў*

Цяжкім і насычаным на падзеі стаўся для актывістаў Партыі БНФ пачатак тыдня. *"Калі мы прыйшлі ў панядзелак на працу, былі проста ашаломлены: вокны заляпаны чырвонай фарбай, а на асфальце каля нашага будынка надпіс: "Рукі прэч ад бацькі!"* — распавядае намеснік старшыні Партыі БНФ Віктар Івашкевіч.

На месца здарэння прыехалі міліцыянты і следчыя Савецкага РУУС, быў складзены пратакол, апытаны сведкі. Але злыдні пакуль што не знойдзены. *"Я сумняваюся, што іх знойдуць і што іх наогул будуць шукаць,* — дзеліцца думкамі Івашкевіч. — *Атрымліваецца, што разбойнікаў трэба шукаць сярод прыхільнікаў той асобы, прозвішча якой было напісана на асфальце. А каму гэта патрэбна?"*

Віктар Івашкевіч перакананы: тое, што здарылася, — вынік ідэалагічнай істэрыі, якая адбываецца з падачы вярхоў. *"З экранаў тэлевізараў, са старонак дзяржаўных газет апазіцыянеры малююцца як ворагі нацыі, "отморозки", і, на жаль, знаходзяцца тыя, хто верыць бруднай прапагандзе, з задавальненнем падхопліваюць гэтыя тэзісы і імкнуцца ператварыць у жыццё,* — разважае палітык. — *Але няхай ведаюць, нас такімі ўчынкамі не запалохаць. Страху наогул ніякага няма. Страх у іншым — у пагрозе ўзнікнення грамадскага канфлікту. Сёння гэтыя злыдні аблілі фарбай партыйны будынак, а заўтра палезуць у бойку з тым, хто размаўляе па-беларуску. Прыкра. Кампанія нянавісці супраць іншадумцаў пачалася",* — з сумам падкрэсліў Віктар Івашкевіч.



**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

## ЗША занепакоены працягам парушэнняў Беларуссю прынцыпаў і абавязацельстваў АБСЕ

ЗША "глыбока занепакоены" працягам парушэнняў урадам Беларусі асноўных прынцыпаў і абавязацельстваў АБСЕ — "нападкамі на акадэмічныя свабоды, СМІ і правы мірных сходаў". Аб гэтым заявіў намеснік кіраўніка місіі ЗША пры АБСЕ Пол Джонс, выступаючы ў Вене на пасяджэнні Пастаяннага савета гэтай арганізацыі.

Злучаныя Штаты, у прыватнасці, занепакоены рашэннем беларускіх уладаў аб закрыцці Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта (ЕГУ). Універсітэт і яго рэктар Аляксандр Міхайлаў, зазначыў П.Джонс, робяць "значны ўклад у развіццё інтэлектуальнай думкі і акадэмічнага плюралізму ў краіне". Гэта, паводле яго слоў, з'яўляецца жыццёва важным, калі Беларусь хоча дамагчыся прагрэсу на шляху дэмакратыі". ЗША лічаць, што "няма ніякіх падстаў" для пазбаўлення ЕГУ ліцэнзіі. "Мы спадзяёмся, што беларускія ўлады тут жа спыняць нападкі на універсітэт і пачнуць выконваць абавязацельствы АБСЕ ў галіне адукацыйных і культурных правоў", — зазначыў П.Джонс.

Злучаныя Штаты таксама занепакоены "прымяненнем сілы для разгону мірнай дэманстрацыі" ў Мінску 21 ліпеня і арыштам яе ўдзельнікаў.

Хоць ЗША і ўсведамляюць, што абавязак праваахоўных органаў падтрымліваць грамадскі парадак і бяспеку, "мы не думаем", што ўдзельнікі дэманстрацыі "ўяўлялі нейкую пагрозу парадку ці бяспецы", яны проста мірна выказвалі свае погляды, зазначыў П.Джонс. Паводзіны беларускіх праваахоўных органаў, лічыць ён, з'яўляюцца парушэннем абавязацельстваў і прынцыпаў АБСЕ, што "гарантуюць права на мірныя сходы і забараняюць жорсткае, бесчалавечае і зневажальнае пакаранне".

"Трывожным", паводле слоў П.Джонса, таксама з'яўляецца рашэнне беларускіх уладаў закрыць прадстаўніцтва Усерасійскай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі (УДТРК) у Мінску. "Падобныя дзеянні не павінны мець месца ў дзяржаве — члене АБСЕ, — заявіў ён. — Мы спадзяёмся, што беларускія ўлады прымуць тэрміновыя меры для таго, каб адпавядаць стандартам АБСЕ".

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## Усе 110 акруговых выбарчых камісій сфарміраваны

Усе 110 акруговых выбарчых камісій па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі трэцяга склікання сфарміраваны ў максімальным складзе. Пра гэта БелаПАН паведаміў сакратар Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў Мікалай Лазавік.

Паводле інфармацыі М.Лазавіка, наогул у акруговыя камісіі ўключаны 1430 чалавек (па 13 у кожнай). Больш за палову членаў камісій — жанчыны. Моладзь у розных абласцях прадстаўлена ад 8 да 11 працэнтаў, палітычныя партыі — ад 2 да 10, грамадскія аб'яднанні — ад 16 да 30, прадстаўнікі працоўных калектываў — ад 20 да 40.

У найбліжэйшыя тры дні ўсе камісіі збяруцца на сваё першае пасяджэнне і абяруць сваіх старшыняў і сакратароў.

## Дэкларацыі для кандыдатаў у дэпутаты будуць спрошчаны

Цэнтрвыбаркам прыняў пастанову, якая тлумачыць парадак прадастаўлення падатковых дэкларацый кандыдатамі ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі.

Як адзначыў, прадстаўляючы праект пастановы, сакратар Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік, у адпаведнасці з Выбарчым кодэксам усе кандыдаты ў дэпутаты павінны будуць прадставіць у акруговыя выбарчыя камісіі дэкларацыі аб даходах і маёмасці. Прычым, адзначыў ён, па прапанове ЦВК формы дэкларацыі сёлета будуць значна спрошчаны. Адпаведныя бланкі дэкларацый ужо надрукаваны і развезены па акруговых выбарчых камісіях.

У адрозненне ад папярэдняй выбарчай кампаніі — прэзідэнцкіх выбараў 2001 года — кандыдатам у дэпутаты не трэба будзе запаўняць дэкларацыі аб даходах і маёмасці на сваіх блізкіх сваякоў.

У адпаведнасці з тлумачэннямі ЦВК кандыдаты павінны будуць у дэкларацыях указаць свае даходы за папярэдні каляндарны год і маёмасць, якую яны маюць на момант запаўнення дэкларацыі.

Правяраць паўнату і дакладнасць прадстаўленых звестак будуць акруговыя выбарчыя камісіі, паведаміў М.Лазавік.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

**ФАРС**

## У акруговыя камісіі Гомельшчыны не пусцілі прадстаўнікоў апазіцыйных партый

*30 ліпеня Гомельскі аблвыканкам і прэзідыум аблсавета зацвердзілі склад 17 акруговых камісій па выбарах дэпутатаў парламента. З васьмі партый, якія прапанавалі сваіх кандыдатаў, у склад камісій уключаны вылучэнцы толькі чатырох партый: па 3 чалавекі — ад Аб'яднанай грамадзянскай і Ліберальна-дэмакратычнай партый, 5 — ад ПКБ, 6 — ад КПБ.*

Цікава, што, напрыклад, ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі ў камісіі ўвайшлі толькі 23 працэнты вылучэнцаў (3 з 13). Затое ў артадаксальных камуністаў з КПБ уведзены ў акруговыя выбарчыя камісіі 85 працэнтаў прапанаваных прадстаўнікоў (6 з 7). Ніводнага свайго прадстаўніка ў рэгіёне не будуць мець у выбарчых камісіях Партыя БНФ, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада). Іх вылучэнцы адрынуты аблвыканкамам і прэзідыумам аблсавета падчас фарміравання складу акруговых выбарчых камісіяў, паведаміла Радыё Свабода.

## У акруговых камісіях Магілёўскай вобласці не будзе прадстаўнікоў апазіцыі

*2 жніўня ў Магілёве адбылося сумеснае пасяджэнне Прэзідыума Магілёўскага абласнога Савета дэпутатаў і Магілёўскага аблвыканкама, на якім былі створаны акруговыя камісіі па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь трэцяга склікання. На пасяджэнні старшынстваваў кіраўнік Магілёўскага аблвыканкама Барыс Батура. Згодна з адзіным пунктам парадку дня пасяджэння ў Магілёўскай вобласці было створана 13 акруговых камісій з максімальнай колькасцю сяброў — 13 чалавек у кожнай. На 169 месцаў сяброў акруговых камісій было пададзена 258 заяў, у тым ліку 52 — ад палітычных партый, 77 — ад выбаршчыкаў. З некалькіх дзесяткаў апазіцыйных прэтэндэнтаў у склад акруговых камісій не патрапіў ніводзін чалавек.*

Прадстаўнікі апазіцыйных арганізацый былі адхілены на такіх, напрыклад, падставах: "задужа малады", "няма даведкі з працы", "няправільнае афармленне дакументаў" і г.д. Былі таксама адхілены ўсе непрацуючыя апазіцыйныя прэтэндэнты ў склад камісій.

Склады акруговых камісій былі складзены дэ-факта яшчэ да пачатку пасяджэння: як заявіў дакладчык Сівайлаў, "мы будзем разглядаць толькі тых, каго мы прапануем не ўключаць у склад камісій", што і адбылося. Ніводная кандыдатура тых прэтэндэнтаў, з якіх і былі сфарміраваны камісіі, не была абмеркаваная на пасяджэнні.

*www.charter97.org*

**РЭЗАНАНС**

## Хто яшчэ з «помойкі»?

Добры дзень, паважаная "Народная воля"!

Якое адкрыццё зрабіў А.Лукашэнка на нядаўняй прэс-канферэнцыі, калі сказаў, што ён рэктара галоўнай вышэйшай навучальнай установы нашай краіны знайшоў на "помойке", потым ён яго адмыў (цікава, дзе ён яго мыў?) і пасадзіў у крэсла, надзяліўшы паўнамоцтвамі члена ўрада.

Калі так, то ці не з "помоек" і астатнія рэктары, міністры і вертыкальшчыкі?!

Калі так, тады зразумела, чаму мы дрэнна жывём, не ідзём у цывілізаваны свет.

**Галіна КАНДРАЦЕНКА, жыхарка г.Барысава.**

### АД РЭДАКЦЫІ

*Не будзем удакладняць, на якіх "помойках" знаходзіць А.Лукашэнка міністраў, але Аляксандр Уладзіслававіч Казулін прыйшоў на пасаду рэктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта з пасады першага намесніка міністра адукацыі. Калі Міністэрства адукацыі — "помойка", то пра што можна наогул гаварыць...*

ПУЛЬС

## Суд стаў на бок Партыі БНФ

Як паведаміла прэс-служба партыі, у якасці адказчыка выступаў начальнік аддзела па ідэалагічнай працы Маларыцкага райвыканкама Сяргей Строк, які публічна абвінаваціў Партыю БНФ у супрацоўніцтве з фашыстамі. У прыватнасці, выступаючы 25 красавіка на сходзе ў вёсцы Струга, што быў арганізаваны па ініцыятыве дэпутата Маларыцкага раённага савета ад Партыі БНФ Уладзіміра Малея, С.Строк параіў мясцовым жыхарам не слухаць апазіцыю. "Я вам больш скажу: гэты таварыш (калі яго можна назваць таварышам) Уладзімір — член Партыі БНФ. Гэтая партыя ў гады Вялікай Айчыннай вайны, калі вы былі маладыя, была на баку фашысцкай Германіі".

На судовым працэсе ў якасці сведкаў выступілі Уладзімір Малей, а таксама старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка і актывіст партыі Павел Хівук. Інтарэсы істца прадстаўлялі кіраўнік арганізацыйна-прававой камісіі Партыі БНФ Уладзімір Лабковіч і юрыст Валянцін Стэфановіч.

У выніку раённы суд абавязаў начальніка аддзела па ідэалагічнай працы абвергнуць сваё выказванне ў рэгіянальнай газеце "Голас Часу", заснаванай Маларыцкім райвыканкамам, і выплаціць БНФ затраты на дзяржпошліну ў памеры 95 тысяч рублёў і 4 тысячы 160 рублёў — у даход дзяржавы.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

## Раённую ўладу — пад суд!

Пракурор Полацкай міжраённай ваеннай пракуратуры прадставіў у Гаспадарчы суд Віцебскай вобласці два іскі да Верхнядзвінскага райвыканкама аб замяшчэнні шкоды, нанесенай дзяржаве ў выніку неабгрунтаванага заклiку на вайсковую службу хворых маладых людзей.

Адзін з гэтых іскаў — на суму каля 500 тысяч рублёў — ужо разгледжаны судом і поўнасцю задаволены, другі будзе разглядацца ў бліжэйшы час.

Сутнасць справы ў тым, што, згодна з існуючым законам, мясцовыя органы выканаўчай улады нясуць адказнасць за шкоду, нанесеную дзяржаве заклікам у армію грамадзян, якія не адпавядаюць патрабаванням вайсковай службы па стане здароўя.

У сваю чаргу Верхнядзвінскі райвыканкам арганізаваў службовую праверку ў мясцовым тэрытарыяльным медыцынскім аб'яднанні. Вінаватымі ў адхіленні ад урачэбных стандартаў прызнаны стаматолаг і псіхіятр. Абодва прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Будзе генетычна мадыфікаваная бульба

Да яе вырошчвання прыступяць у верасні. Аб гэтым паведаміў БелаПАН кіраўнік Нацыянальнага каардынацыйнага цэнтра біябяспекі Інстытута цыталогіі і генетыкі Нацыянальнай акадэміі навук Аляксандр Ярмішын.

Спецыяліст зазначыў, што амерыканская карпарацыя "Мансанта" на пачатку верасня перадае беларускім вучоным матэрыялы генных канструкцый і тэхналогію іх увядзення ў насенне беларускіх гатункаў бульбы. Прграма атрымання насення для масавага вырошчвання ГМ-бульбы ў гаспадарках краіны разлічана на 5—7 гадоў.

А.Ярмішын упэўнены, што для Беларусі пытанне вырошчвання генетычна мадыфікаваных гатункаў бульбы, устойлівых да каларадскага жука, мае вялікае значэнне, паколькі страты ад гэтага шкодніка дасягаюць 30% ад валавога збору бульбы.

**Алена ПАСКАННАЯ.**

## Скідкі на тавары для школьнікаў

З 1 жніўня ААТ "ГУМ" прадастаўляе 10-працэнтную скідку на тавары для школьнікаў — швейныя і абутковыя вырабы, канцылярскія тавары.

Як паведаміў намеснік дырэктара па камерцыйнай працы ААТ "ГУМ" Сяргей Рашчынскі, скідку можна будзе атрымаць пры куплі швейных вырабаў для школьнікаў малодшых класаў на суму ад 100 тысяч рублёў, для старшакласніка — ад 140 тысяч рублёў, абутковых вырабаў — ад 60 тысяч рублёў і ад 80 тысяч рублёў адпаведна.

Для экіпіроўкі першакласніка неабходна ад 100 да 250 тысяч рублёў, старшакласніка — ад 180 да 350 тысяч рублёў.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Брэсцкі мастак запрошаны ў Токіо

Брэсцкі мастак Леў Алімаў атрымаў запрашэнне ўзяць удзел у чацвёртай трыенале (традыцыйная выстава, што праходзіць раз у тры гады) графікі малых форм у Токіо. Выстава пройдзе ў лістападзе гэтага года і будзе прысвечана 70-годдзю Такійскага універсітэта мастацтваў. Для ўдзелу ў ёй арганізатары адабралі больш за 900 мастакоў з 81 краіны.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**



*Сяброўства...*

Фота photo.bymedia.net

## Місія невыканальная?

Вынікі выступленняў спартсменаў ва ўсіх відах алімпійскай праграмы спрагназаваць немагчыма. Такое меркаванне выказаў былы намеснік міністра спорту і турызму, старшыня Беларускай федэрацыі аматарскага бокса Аляксандр Грыгараў у Алімпійскім прэс-цэнтры "BelSwissBank" у Мінску.

"Прагноз не можа быць франкастолевым і павінен грунтавацца на аналітычным багажы, — сказаў А.Грыгараў. — Але калі ў цыклічных відах спорту прагноз можа апраўдацца, то там, дзе шмат залежыць ад суддзі, узнікаюць пэўныя праблемы".

"Я не бяруся меркаваць аб прагнозе, але як чалавек вельмі хацеў бы, каб нашы спартсмены заваявалі ў Афінах 25 медалёў", —- заявіў былы намеснік міністра. А.Грыгараў, які займаў гэтую пасаду падчас Алімпіяды 2000 года ў Аўстраліі, нагадаў, што тады пры прагнозе 16 — 17 медалёў было заваявана 17 узнагарод. "Дзесьці мы пралічыліся, а дзесьці былі прыемныя нечаканасці, але ў прагноз "трапілі", — адзначыў А.Грыгараў.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Кампанія «Velcom» аб'явіла аб пачатку рэкламнай гульні

Сумеснае прадпрыемства ТАА "Мабільная лічбавая сувязь" (гандлёвая марка "Velcom") аб'явіла аб пачатку рэкламнай гульні "Сім-фонія Лета", якая будзе дзейнічаць да канца жніўня ў Віцебскай, Брэсцкай і Гродзенскай абласцях.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе кампаніі, удзельнікамі акцыі стануць усе, хто падключыцца ў жніўні да сеткі VELCOM на трыторыі гэтых абласцей у фірменных цэнтрах кампаніі або ў салонах афіцыйных дылераў па любым тарыфным плане. У межах акцыі будзе разыграна 45 мабільных тэлефонаў SIEMENS A52 — па 15 апаратаў у кожнай з абласцей. Розыгрышы прызоў будуць праводзіцца штотыднёва ў фірменных цэнтрах VELCOM у Віцебску, Брэсце і Гродне, іх таксама можна будзе ўбачыць у эфіры мясцовых выпускаў на тэлеканале "Лад".

**Лавінія АРЭШКА.**

ХТО — КАГО?

# Не ўступілі...

30 ліпеня адбылося пасяджэнне Сената, ці інакш — Рады Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта. Сенат прыняў заяву-зварот да ўсіх, хто неабыякавы да лёсу гэтай навучальнай установы. Змест заявы сведчыць, што, нягледзячы на жаданне трымацца як мага далей ад палітычных жарсцяў, кіраўніцтва, выкладчыкі, студэнты вымушаны ў межах сваіх магчымасцяў адэкватна рэагаваць на рашэнне Міністэрствам адукацыі на сітуацыю, якая склалася вакол ЕГУ.

*"Сенат лічыць, што дадзенае рашэнне носіць палітычны характар і звязана з прыхільнасцю ЕГУ каштоўнасцям акадэмічных свабод і універсітэцкай аўтаноміі, з цвёрдай і аднадушнай падтрымкай гэтых прынцыпаў усёй універсітэцкай супольнасцю, ягонай салідарнасцю ў адстойванні права мець таго рэктара, якому гэтая супольнасць давярае".*

Нагадаю, што "наезд" на ЕГУ распачаўся з патрабавання змяніць рэктара, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Анатоля Міхайлава на асобу, якая задаволіць міністэрства. Частка выкладчыкў, мабыць, дагэтуль лічыць, што, каб адразу згадзіліся з патрабаваннем Міністэрства адукацыі, можна было б сёння захаваць і памяшканне, і ліцэнзію на адукацыйную дзейнасць, і сам універсітэт як цэльную структуру. Аднак большасць зыходзіць з таго, што, калі аднойчы прынесці маральныя прынцыпы ў ахвяру матэрыяльнай ці яшчэ якой выгадзе, уступіць шантажу, можна стварыць небяспечны прэцэдэнт і справакаваць новыя прэтэнзіі з боку ўлады. Сёння здай рэктара, заўтра перапішы навучальныя праграмы, пасля скасуй кантакты з замежжам. Можа, праз такую паслухмянасць ЕГУ і захавалася б, але што засталося б ад ЕГУ?

У заяве Сенат выказвае шкадаванне з нагоды неабходнасці прыпыніць сваю адукацыйную дзейнасць, перавесці студэнтаў у іншыя ВНУ, звольніць вялікую колькасць штатных выкладчыкаў і супрацоўнікаў. *"Сенат упаўнаважаны заявіць, што універсітэт пры падтрымцы міжнароднай грамадскасці і надалей будзе ажыццяўляць сваю місію па фарміраванні новага пакалення гуманітарыяў, здольных стаць медыятарамі культур паміж Усходам і Захадам. Студэнты універсітэта па-ранейшаму могуць лічыць ЕГУ сваёй alma mater і браць удзел у яе новых праектах".* Праўда, захаваць студэнцкую супольнасць і рэалізаваць новыя праекты будзе пры адсутнасці ўласнага памяшкання даволі складана. Спадзяванні хіба што на Інтэрнет.

Члены Сената падтрымалі прапанову студэнтаў аб правядзенні 5 жніўня сходу ў абарону ЕГУ, салідарызуючыся з лозунгам "ЕГУ мусіць жыць!".

Барацьба заўжды мае сэнс. Вось і зараз супраціўленне і грамадскі розгалас прымусілі Міністэрства адукацыі пайсці на перамовы і згадзіцца на перавод студэнтаў ЕГУ ў галоўную ВНУ краіны — Беларускі дзяржаўны універсітэт. Рэктар А. Міхайлаў, першы прарэктар У. Дунаеў, на якіх сёй-той ужо пачаў глядзець як на асоб, ад якіх нічога рэальна не залежыць, як на "вясельных генералаў", у крытычнай сітуацыі спрацавалі як крызісныя менеджэры. Для заходніх "донараў" яны застаюцца сур'ёзнымі партнёрамі. Пад гэтыя імёны знойдуцца гранты.

Дарэчы, ёсць думка, што перавод шэрагу кафедр скасаванага універсітэта ў БДУ уяўляе для супольнасці ЕГУ большую небяспеку, чым пераход у Інстытут парламентарызма і прадпрымальніцтва, які разглядаўся як "пажарны" варыянт. БДУ — ў пэўным сэнсе — монстр, які праглыне і не заўважыць. Студэнты ЕГУ, раскінутыя па розных факультэтах гэтага "мегаполіса", маюць мала шанцаў захаваць карпаратыўную салідарнасць і спецыфічны лад мыслення, уласцівыя іхняй alma mater.

Ануляванне ліцэнзіі ЕГУ адна з газет назвала гуманітарнай катастрофай. Мяркую, гэтае вызначэнне не адпавядае сутнасці падзеі. Маштаб не той. Катастрофа — гэта Курапаты, вайна, Чарнобыль. Гуманітарнай катастрофай можна назваць "рэферэндумы", праз якія прайшла наша краіна ў 1995 і 1996 гадах. Але для тысячы студэнтаў, іхніх бацькоў, для выкладчыкаў і супрацоўнікаў ЕГУ — гэта драма. Улада знішчае тое, што не здольна падпарадкаваць. Гэта трагедыя. Трагедыя краіны.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

## Бог ведае, куды «збеглі выдаткі»

Свавольна і нават супрацьзаконна абышлося з гуманітарнай дапамогай з-за мяжы кіраўніцтва Віцебскага аб'яднання евангельска-лютэранскай царквы ў Беларусі. Атрымаўшы ад лютэранскай царквы ЗША 6,5 тысячы долараў на дабрачынныя і сацыяльныя праекты, віцебскія пастыры, насуперак дамове аб ахвяраваннях, спісалі 1,5 тысячы долараў на таямнічыя "бягучыя выдаткі", пад марку якіх можа трапіць усё, што заўгодна: ад набыцця тэлевізара да наладжвання банкета. Няпэўная фармулёўка выкарыстання "зялёных" спыніла ўвагу спецыялістаў Дзяржкантролю.

Матэрыялы праверкі фінансавай дзейнасці мясцовых айцоў-лютэран перададзены як прыклад нямэтавага выкарыстання гуманітарнай дапамогі ў Гаспадарчы суд Віцебскай вобласці.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## «Адлучэнне» за акцыю?

Некаторыя беларускія музыканты "адлучаны" ад радыёэфіру. Гэты факт БелаПАН пацвердзілі супрацоўнікі некаторых мінскіх радыёстанцый.Паводле іх слоў, на мінулым тыдні паступіла негалоснае распараджэнне "зверху" — творы некаторых музыкантаў (сярод іх называюць гурты "Нейра Дзюбель", "N.R.M.", "Палац" "Drum Ecstasy", шоумена Дзмітрыя Вайцюшкевіча) цяпер не павінны трапляць у радыёэфір ні пад якой маркай.

Аляксандр Кулінковіч, лідэр гурта "Нейра Дзюбель", звязвае чарговую чыстку інфармацыйнай прасторы краіны з удзелам пералічаных вышэй музыкантаў у канцэрце, што адбыўся 21 ліпеня на плошчы Бангалор пасля апазіцыйнага мітынгу. "У эфіры больш не будзе "Нейра Дзюбеля". Усё роўна, мы ўсё робім правільна", — лічыць музыкант.

Як вядома, на наступны дзень пасля мітынгу калектыў фолк-гурта "Палац" у поўным складзе быў звольнены з УП "Белканцэрт", дзе працаваў на працягу апошніх 4 гадоў. Афіцыйнай прычынай звальнення была названа нізкая наведвальнасць канцэртаў гурта. Аднак музыканты "Палаца" сказалі, што гэта не адпавядае рэчаіснасці. У чэрвені — ліпені 2004 года "Палац" з поспехам гастраляваў ва ўсіх абласцях Беларусі, а 11 ліпеня выступіў на кіеўскім фолк-фестывалі "Краіна мрій".

**Павел СВЯРДЛОЎ.**



## Флэш-моб на Кастрычніцкай. Ёсць затрыманні

Пасля заканчэння флэш-моба (акцыі бязглуздых учынкаў), арганізаванага вечарам 2 жніўня студэнтамі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта на Кастрычніцкай плошчы Мінска, быў затрыманы фотакарэспандэнт газеты "Белорусский рынок" Раміль Насібулін. Разам з ім у міліцыю трапілі чатыры студэнты ЕГУ.

Р.Насібулін прыехаў на Кастрычніцкую плошчу з невялікім спазненнем, ужо пасля таго, як флэш-моб быў закончаны. Фотакарэспандэнт папрасіў студэнтаў, якія хаваліся ад дажджу пад казырком ганку Палаца прафсаюзаў, папазіраваць яму, але быў затрыманы. Р.Насібуліна выпусцілі прыкладна праз гадзіну, калі ён прад'явіў пустую флэш-карту са свайго фотаапарата.

Як ужо паведамляў БелаПАН, каля 70 студэнтаў ЕГУ на працягу 15 хвілін чыталі кнігі, седзячы на Кастрычніцкай плошчы. Мэта акцыі — прыцягнуць увагу грамадзян да закрыцця навучальнай установы.

**Павел СВЯРДЛОЎ.**
**Фота photo.bymedia.net**

## Студэнты ЕГУ разбрыдаюцца хто куды...

"Большая частка нашых студэнтаў будзе працягваць навучанне ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, — паведаміла прарэктар Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта па вучэбна-выхаваўчай працы **Таццяна ГАЛКО**. Значная частка студэнтаў-псіхолагаў абрала Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка, адзінкі пераходзяць у Эканамічны універсітэт, Беларускі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт і Беларускі дзяржаўны універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі. Як мы плануем, некаторыя студэнты накіруюцца на вучобу ў інстытуты палітычных навук Францыі. Але ў сілу пэўных абставін гэта будзе зусім невялікая група".

Трэба зазначыць, што факультэтаў, якія б цалкам адпавядалі спецыяльнасцям студэнтаў ЕГУ, у іншых ВНУ фактычна не існуе. *"У даволі складаных варунках студэнты франка-беларускага факультэта, ёсць праблемы з факультэтам філасофіі, са спецыяльнасцю філасофія і культуралогія, з дызайнам і камп'ютэрнай графікай. Але, мяркую, што ў бліжэйшыя дні мы гэтыя пытанні вырашым, паколькі зараз вядзём актыўныя перамовы з кіраўніцтвам універсітэтаў, факультэтаў... Спадзяюся, што ў рэшце рэшт кампраміс будзе, ніводзін са студэнтаў на вуліцы не застанецца"* — падсумоўвае прарэктар.

Дарэчы, пры пераходзе ў іншыя ВНУ студэнты Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта губляюць свае шматлікія льготы, у прыватнасці, скідкі на аплату вучобы. Навучанне будзе адбывацца цалкам на платнай аснове. *"Тых, хто вучыўся бясплатна, мы плануем падтрымаць індывідуальнымі грантамі",* — зазначыла Таццяна Галко.

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

ЗЕРКАЛО

*Недавно Независимый институт социально-экономических и политических исследований провел очередной национальный опрос общественного мнения (методом face-to-face interview опрошено 1508 человек в возрасте 18 лет и старше, предельная ошибка репрезентативности не превышала 0.03). Предлагаем вам результаты еще одного исследования.*

# Белорусы готовы поддержать противника А.Лукашенко. Но пока не знают такого человека

Если смотреть на проблему президентских выборов только через призму норм Конституции, то картина выглядит следующим образом — голосование должно состояться осенью 2006 г., действующий президент не имеет возможности выдвигать свою кандидатуру на пост главы государства, поэтому анализировать надо исключительно шансы других политиков. В реальности главная интрига попрежнему состоит в том, готов ли А. Лукашенко оставить власть или он все же решится проводить референдум по изменению Конституции, с тем чтобы получить возможность еще раз бороться за президентское кресло.

Здесь имеют место два тесно связанных между собой, но все же различных сюжета. Первый касается проведения референдума. Второй сводится собственно к президентским выборам, т. е. он подразумевает, что референдум успешно проведен и что президент устранил имеющиеся конституционные препятствия на пути к третьему сроку.

В отношении планов главы государства у белорусской элиты нет никаких сомнений — 97% опрошенных нами в мае лидеров общественного мнения и экспертов заявили, что А. Лукашенко будет добиваться продления своих президентских полномочий. Как правило, взгляды белорусской элиты и рядовых избирателей заметно отличаются. В данном же случае подавляющее большинство избирателей оценивает намерения А. Лукашенко почти столь же однозначно, как и элита (88% по сравнению с 4,9%). Недавние многодневные поездки главы государства в регионы вызвали волну комментариев, сводившихся к тому, что он уже фактически начал кампанию по продлению президентских полномочий. Большинство респондентов (53,5%) согласилось с такой трактовкой и лишь 37,7% указали, что эти визиты были вызваны необходимостью навести порядок на местах.

Однако возможное желание президента остаться на своем посту не находит отклика у белорусов. **Половина респондентов заявили, что не поддерживают такую инициативу, и только чуть более трети дали на этот вопрос положительный ответ.** Заметим, что такое соотношение остается практически неизменным вот уже на протяжении двух лет.

Мы уже не раз писали о феномене "спирали молчания", суть которого в том, что люди, боясь остаться в меньшинстве, часто высказывают не свою точку зрения, а ту, которая, по их мнению, поддерживается большинством. На практике это приводит к тому, что сторонники перемен в белорусском обществе, скрывая собственные взгляды, не могут осознать своей реальной силы. Результаты нынешнего опроса, однако, показывают, что "спираль молчания", много лет сковывающая белорусское общество, оказывается уже не столь жесткой, как прежде. Отвечая на вопрос, как большинство населения относится к инициативе А. Лукашенко по продлению полномочий, респонденты продемонстрировали пессимизм в гораздо меньшей степени, чем прежде: 41,4% отметили, что большинство поддержит эту инициативу, а 32,4% дали противоположный ответ.

В чем причина преимущественно негативной реакции избирателей на третий срок? Чаще всего самым весомым аргументом для белорусов выступал социально-экономический фактор, уровень материального благосостояния. Но сейчас положение дел в этой области, по мнению самих избирателей, не кажется критическим. С сентября прошлого года увеличилось число белорусов, чье материальное положение не изменилось (с 56,8% до 64%). Одновременно уменьшилась численность тех, у кого оно ухудшилось (с 30,6% до 26,6%). И хотя число тех, у кого оно улучшилось, тоже сократилось (с 11,6% до 7,9%), кардинального ухудшения все же не произошло.

Похожая картина зафиксирована и в ответах на вопрос об изменении социально-экономической ситуации в стране. С марта прошлого года в два раза (с 43,7% до 21,5%) сократилось число пессимистов (тех, кто считает, что ситуация в ближайшие годы ухудшится). На треть (с 15,2% до 21,8%) выросли ряды оптимистов, и в полтора раза (с 30,2% до 46,2%) стало больше тех, кто убежден, что ситуация не изменится. **Иными словами, о социально-экономическом кризисе и о доминировании пессимистических настроений в обществе говорить нет оснований.**

Тем не менее нынешняя стабильность является в глазах избирателей недостаточной заслугой для президента, чтобы позволить ему и далее руководить страной. **Только 30,3% респондентов указали, что А. Лукашенко в целом достаточно хорошо руководил страной и что его следует вновь избрать президентом на следующих выборах. Более половины (57,4%) уверены, что кто-то другой должен занять этот пост.** Вероятно, тут сказывается психологический фактор. Когда стабильность становится привычной, людям требуется нечто большее, например, качественное улучшение условий жизни. Нынешняя власть и ее лидер пока не оправдывают таких надежд, поэтому белорусы хотят увидеть во главе государства новую фигуру.

Касаясь будущих президентских выборов, следует отметить, что, по мнению большинства избирателей (51,2%), рейтинг А.Лукашенко после выборов 2001 г. снизился (о повышении рейтинга указали только 31% респондентов). Но если исходить из того, что А. Лукашенко действительно намерен идти на третий срок и допустить, что референдум им уже успешно проведен, то его шансы победить на президентских выборах выглядят в данный момент более предпочтительными, чем у других кандидатов (табл. 1).

**Таблица 1. Рейтинги потенциальных кандидатов в президенты, %**

| Рейтинги: | А. Лукашенко | В. Леонов | М. Маринич | А. Климов | А. Войтович | А. Тозик |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Открытый | 34,2 | - | 0,7 | 1,1 | - | 0,3 |
| В паре с А. Лукашенко* | 35,1*** | 11,8 | 15,8 | 18,5 | 14,9 | 8,3 |
| За кого Вы бы | | | | | | |
| — проголосовали | 37,0 | 10,4 | 15,0 | 18,2 | 14,6 | 8,1 |
| — определенно не стали голосовать* | 47,2 | 60,6 | 55,4 | 53,5 | 53,6 | 62,3 |
| Ожидаемый победитель на выборах 2006 г.** | 41,9 | — | 1,1 | 2,3 | — | 0,5 |

** Закрытый вопрос* ** Открытый вопрос **** Средний процент по пяти парам кандидатов*

Из приведенных данных можно сделать вывод, что А. Лукашенко по-прежнему остается ведущим игроком на белорусском электоральном поле. Его рейтинг, поднявшись после "газового скандала", в закрытом варианте превышает показатель ближайшего конкурента вдвое. А в открытом варианте, когда избирателям надо самим вписывать фамилии кандидатов, рейтинг главы государства почти не меняется (34,2%), тогда как показатели всех его конкурентов находятся в пределах статистической ошибки. Электорат А. Лукашенко остается стабильным и высоко консолидированным, он готов поддержать своего кумира в борьбе с любыми потенциальными оппонентами — от оппозиционеров до ближайшего номенклатурного окружения. Уже сейчас, когда еще не запущена на полную мощь машина государственного медийного агитпропа, 41,9% опрошенных заявляют, что А. Лукашенко одержит победу на президентских выборах в 2006 г.

Вместе с тем важно отметить, что **продолжавшийся с весны прошлого года рост рейтинга Лукашенко (с 27 до 34%), несмотря на непрекращающуюся активность главы государства, в последнем квартале прекратился.** И трудно представить, что президент может еще предпринять, чтобы изменить ситуацию в свою пользу.

Главной проблемой демократических сил продолжает оставаться отсутствие достойной альтернативы, способной консолидировать демократический электорат и привлечь на свою сторону тех, кто пока не дал ответа на вопрос, за кого будет голосовать на президентских выборах, либо затруднился ответить. А таких сегодня 40%! В том, что общество готово воспринять и поддержать такого кандидата, сомнений нет (табл. 2).

**Таблица 2. Распределение ответов на вопрос "Если бы Вы знали человека, который мог бы успешно конкурировать с А. Лукашенко на следующих президентских выборах, то проголосовали бы за него или за А. Лукашенко?"**

| Варианты ответа | % |
|---|---|
| Проголосовал бы за такого кандидата | 56,4 |
| Проголосовал бы за А. Лукашенко | 21,5 |
| Пока не знаю, посмотрел бы по обстоятельствам | 22,0 |

Вот только дело в том, что знают такого человека лишь 9,4%, не знают 89,4%. Кроме того, демократический электорат в настоящее время не столь консолидирован. Проанализируем степень консолидации, используя данные о голосовании на президентских выборах за демократических кандидатов в парах с А.Лукашенко. Если сложить всех избирателей, готовых голосовать **или за одного, или за другого кандидата** (в нашем случае соперниками А. Лукашенко выступают В.Леонов, М.Маринич, А.Климов, А.Войтович), то таких наберется 28,8%. Однако **любого из них** готовы поддержать почти в 6 раз меньше лишь 5,1 % избирателей.

Еще более впечатляющими выглядят цифры, когда такие же расчеты провести применительно к рейтингам, полученным в ходе ответов на закрытый вопрос о голосовании на президентских выборах (табл. 3).

**Таблица 3. Распределение ответов на вопрос "За кого из потенциальных кандидатов в президенты Беларуси Вы бы проголосовали, а за кого определенно не стали бы голосовать?", %**

| Варианты ответа* | Проголосовал бы | Не стал бы голосовать | ЗО/НО |
|---|---|---|---|
| А.Лукашенко | 37,0 | 47,2 | 15,8 |
| А.Климов | 18,2 | 53,5 | 28,3 |
| А.Лебедько | 15,5 | 53,5 | 31,0 |
| М.Маринич | 15,0 | 55,4 | 29,6 |
| А.Войтович | 14,6 | 53,6 | 31,8 |
| В.Фролов | 12,0 | 55,6 | 32,4 |
| Н.Статкевич | 11,8 | 54,7 | 33,5 |
| В.Леонов | 10,4 | 60,6 | 29,0 |
| А.Тозик | 8,1 | 62,3 | 29,6 |
| А.Ярошук | 6,1 | 58,1 | 35,8 |
| М.Мясникович | 5,3 | 61,1 | 33,6 |
| Против всех указанных кандидатов | 7,7 | 18,5 | 73,8 |

** читается по горизонтали*

**За одного или за другого демократического кандидата** (кроме названных выше четырех демократических кандидатов здесь добавляются еще В. Фролов, А. Лебедько, Н. Статкевич и А. Ярошук) намерены голосовать 34,8%, и этот показатель даже выше, чем рейтинг А. Лукашенко. **За любого из них** — только 2,7%.

Это означает, что "объединенный" электорат демократических кандидатов почти в два раза превышает электорат каждого из них в отдельности: 28,8% — 15,8% (электорат М. Маринича) = 13%. В этой связи консолидация электоратов демократических кандидатов по-прежнему остается важнейшей предпосылкой для успеха на выборах. Насколько решаема данная задача применительно к четырем демократическим кандидатам, можно видеть из табл. 4.

**Таблица 4. Общность электоратов демократических кандидатов, %***

| Потенциальные кандидаты | В.Леонов | М.Маринич | А. Климов | А.Войтович |
|---|---|---|---|---|
| В.Леонов | Х | 66,8 | **74,2** | 53,9 |
| М.Маринич | 49,8 | Х | **75,3** | 46,9 |
| А.Климов | 47,2 | 64,3 | Х | 51,6 |
| А.Войтович | 42,7 | 49,9 | **64,3** | Х |

** Таблица читается по горизонтали, например: среди тех, кто готов во втором туре президентских выборов голосовать за В. Леонова, 66,8% готовы поддержать М. Маринича.*

Как можно видеть, самым "открытым" (готовым голосовать за других кандидатов) является электорат В.Леонова, а самым "закрытым" — А.Войтовича. Активнее всего голоса других кандидатов "перетекают" к А.Климову. Как и в прошлый раз, когда нами анализировалась степень консолидации электоратов других потенциальных кандидатов в президенты от демократических сил (А. Лебедько, Н. Статкевича, В. Фролова и А. Ярошука), почти во всех комбинациях свыше половины сторонников каждого из политиков готовы проголосовать за другого демократического кандидата. То есть задача консолидации электоратов не выглядит неразрешимой.

Подводя итог, еще раз остановимся на ключевых моментах. И элита, и рядовые избиратели уверены, что А. Лукашенко попытается остаться на посту президента. Такого рода планы у белорусов сегодня не находят отклика, победа на референдуме по изменению Конституции представляется проблематичной. Если же А. Лукашенко все-таки удастся преодолеть этап референдума, его шансы победить на президентских выборах возрастают. Помешать этому может выдвижение кандидата, способного максимально консолидировать демократический электорат.

**НИСЭПИ.**

